## Гарант Канстытуцыі, дапамажы!

Сяргей МАКСІМОВІЧ

58 швачак Слонімскай фабрыкі пуха-пер'евых вырабаў пісьмова звярнуліся да А.Лукашэнкі. Яны просяць, каб той неадкладна прыняў меры і палепшыў іхняе матэрыяльнае становішча.

Жанчыны пішуць, што звярнуліся да яго са скаргай з-за малых заробкаў. «Цэны растуць штодня, а заробак не ўзрастае,— пішуць дэведзеныя да нэндзы работніцы.— Норма выпрацоўкі расце, а расцэнкі стаяць на месцы. Наш заробак ніжэйшы за мінімальны спажывецкі бюджэт. За такую мізэрную суму мы не ў стане нават пракарміць сваіх дзяцей, не кажучы ўжо пра тое, каб іх апрануць». Далей работніцы скардзяцца на парушэнне сваіх канстытуцыйных праў, а таксама на тое, што на фабрыцы няма звычайных побытавых умоваў – не стае нармальнай вады, каб папіць і памыцца, кепска працуе вентыляцыйная сістэма, а ў раздзявалцы — зацесна.

Дырэктар фабрыкі быў у службовай паездцы, а галоўны інжынер В.Лугін адмовіўся размаўляць з карэспандэнтам НАШАЙ СВАБОДЫ, сказаўшы, што «нерватропкі і так хапае». Нам удалося даведацца толькі, што рэакцыі з боку А.Лукашэнкі пакуль не было. Па нашых звестках, некаторыя швачкі атрымліваюць усяго па 15-20 тысяч рублёў. Такім чынам, работніцы, якія шыюць падушкі для грамадзянаў РБ, каб тыя «спалі спакойна», самі спакою не маюць і наўрад ці яго набудуць. ■

## Фронт падтрымаў вынікі Кангрэса

Юрась ВЯЧКА

Апошні Сойм БНФ Вінцука Вячоркі, які прайшоў 8 ліпеня, падтрымаў усе рашэнні чацвёртага Кангрэса дэмакратычных сілаў. Намеснік старшыні Фронту Юрый Хадыка адзначыў, што «Сойм падтрымаў усе рашэнні і ўсе пастановы Кангрэса. Мы будзем клапаціцца, каб рашэнні КДС выконваліся. У першую чаргу, каб дзейнічаў інструмент узаемадзеяння дэмакратычных сілаў – Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў. Кангрэс – безумоўны крок наперад».

Сойм даручыў Управе Фронту вылучыць дэлегатаў на Усебеларускі з'езд. Між тым, сябры Сойма з жалем канстатавалі, што падрыхтоўка форума ідзе без шырокага інфармавання насельніцтва.

Кіраўніцтва Фронту прагназуе таксама абвастрэнне палітычнай сітуацыі па меры набліжэння восені. Сойм звярнуўся да рэгіянальных структураў з прапановай сумесна з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі падаць заяўкі на правядзенне 27 ліпеня – у Дзень незалежнасці масавых акцыяў, прымеркаваных да 10-годдзя суверэнітэту Беларусі. Сойм прапанаваў кожнай раённай радзе да 1 верасня правесці пікеты ў абарону настаўніцтва, аднаго з найбольш неабароненых сацыяльных слаёў. ■

## Генерал-лейтэнанта выклікаюць у пракуратуру

Ганна СОУСЬ

**Былому кіраўніку Віленскага вайсковага гарнізона, а цяпер намесніку міністра абароны Беларусі генерал-лейтэнанту Уладзіміру Усхопчыку Генеральная пракуратура Літвы даслала позву ў суд. 54-гадоваму генералу належыць з'явіцца ў Віленскую пракуратуру 2 кастрычніка.**

Напрыканцы чэрвеня генеральны пракурор Літоўскай Рэспублікі Казіс Педнічас даслаў ліст беларускаму генеральнаму пракурору Алегу Бажэлку, у якім, спасылаючыся на дамову паміж Літвой і Беларуссю пра прававую дапамогу, просіць выявіць месца жыхарства, а таксама ўручыць судовую позву Усхопчыку Уладзіміру Мікітавічу.

Крымінальная справа супраць Усхопчыка была распачатая 12 студзеня 1991 года. Яго і Станіславу Юонене абвінавачваюць у шэрагу злачынстваў – у тым, што з 1 сакавіка 1990 года да 23 жніўня 1991 года яны «дзейнічалі ў групе па папярэднай змове, ставілі на мэце гвалтоўна звергнуць законную ўладу Літоўскай Рэспублікі, стварылі антыдзяржаўныя арганізацыі і бралі актыўны ўдзел у іхнай дзейнасці, захапілі з далучэннем арміі былога Савецкага Саюза дзяржаўныя прадпрыемствы і арганізацыі».

У біяграфіі генерала ёсць адзін цікавы факт. У перыяд, калі Усхопчык камандаваў мотастралковым палком, яго падначаленым быў кіраўнік артылерыі Аслан Масхадаў (цяперашні прэзідэнт Чачні).

Нагадаем, што Уладзімір Усхопчык перабраўся з Літвы ў Беларусь пасля развалу Савецкага Саюза. Сёлета ў траўні Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго намеснікам міністра абароны. Адметна, што пяць гадоў таму генерала хацелі зрабіць міністрам абароны Беларусі. Але тады літоўскі бок выказаў моцнае абурэнне гэтым фактам.

У 1994 годзе Генеральная пракуратура Літвы ўжо звярталася да Беларусі з просьбаю выдаць Усхопчыка, але ёй адмовілі. ■

Радыё «Свабода»

ПАМЯЦЬ



Фота Ул. ШЛАПАКА

● Мінск. «Яма». Адкрыццё помніка ахвярам мінскага гета

## На Юлію Чыгір палюе пракуратура

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Дом экс-прэм'ера Чыгіра зноў наведала міліцыя. На гэты раз прыязджалі да Юліі Чыгір, каб уручыць ёй позву з'явіцца ў пракуратуру Фрунзенскага раёна Мінска. Там расследуецца справа аб інцыдэнце 19 траўня. У той дзень, напярэдадні агалошвання прысуду былому прэм'еру Чыгіру, на ганку суда паміж міліцыянтамі і прадстаўнікамі грамадскасці адбылася сутычка. Юлію Чыгір, якая спрабавала спыніць бойку, схапіў адзін з міліцыянтаў. Ён нанёс жонцы экс-прэм'ера траўму рукі, але пры гэтым і сам пацярпеў – жанчына пакусала яго за вуха. Цяпер пракуратура высвятляе, хто вінаваты. Цікава, што заяву з просьбай прыцягнуць да адказнасці тых, хто незаконна ўжыў сілу, падала ў пракуратуру сама Юлія Чыгір. Але з пацярпелай яна нечакана перайшла ў іншую «якасць». У пракуратуру Фрунзенскага раёна яе выклікаюць як падазроную ў нанясенні цялеснага пашкоджання супрацоўніку міліцыі ды яшчэ папярэджваюць, што яе сілай прыцягнуць на допыт, калі яна адмовіцца прыйсці добраахвотна.

«Толькі на сілу нашыя і здольныя», — кажа Юлія Чыгір, каментуючы пагрозы пракуратуры. На яе думку, уся гэтая гісторыя даволі ганебная для мужчынаў з сілавых структураў, і асабліва яна спадзявалася, што ім хопіць розуму далей яе не раздзімаць. Але калі не хапіла... «Прыйдзецца «распрануцца» перад Інтэрнэтам і запусціць туды здымкі майго цела з сінякамі пасля «абдымкаў» міліцыянта. Хай увесь свет ведае, чым займаюцца нашыя сілавікі», — кажа Юлія Чыгір. У пракуратуру ісці падазронай яна адмаўляецца, спасылаючыся на адпаведныя правы, гарантаваныя Канстытуцыяй. ■

## На новым «Мерсэдэсе» – у старую палітыку

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

**60-гадовага ўзросту дасягае сёлета першы беларускі касманаўт Пётр Клімук. У Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў, які ён узначальвае, ужо пагаворваюць аб наступніках на высокай пасадзе, і таму, магчыма, генерал-палкоўнік зноў падаўся ў палітыку.**

Гэтымі днямі Пётр Клімук наведаў вёску Камароўка, дзе жыве яго родная сястра, і сярэднюю школу ў вёсцы Тамашоўка, якая лічыць Клімука сваім выхаванцам. Зараз тут сустракалі Клімука асабліва ўрачыста, бо ён прэзентаваў школе новы аўтобус – «пазік». Каштуе ён у Расіі каля 10 тысяч долараў. Усю суму генерал аплаціў з прэміі, што разам з іншымі спецыялістамі Зорнага гарадка атрымаў з еўрапейскага фонду імя французскага лётчыка Франсуа Хаўера Бано.

У радзінны куток касманаўт завітаў праездам з Нямеччыны, дзе знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы. Яе ўдалым вынікам можна лічыць набыты «Мерсэдэс-320» не пазней 1998 года выпуску. Клімук расказаў вяскоўцам, што вяртаецца ў палітыку (раней П.Клімук быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР) у якасці старшыні грамадскай палаты саюзнага аб'яднання Беларусі і Расіі. І хоць ніхто з прысутных не ўзгадваў пра пісьмовы пратэст дэмакратычнай грамадскасці Брэстчыны на ўдзел іх вядомага земляка ў прадажным працэсе далучэння Беларусі да Расіі, але Клімук сам загаварыў пра «нацыяналістаў, якія не разумеюць усю выгаднасць аб'яднання». Пасланне чытаў, але стаіць на супрацьлеглых перакананнях. Шкада. Масакоўскі госць мог пабачыць апусцелыя сядзібы ў вёсцы, а ад радні пачуць, што ў тамтэйшым калгасе імя Дзяржынскага затрымліваюць заробленае яшчэ ў красавіку. На курс мінскай вярхушкі па расійскім вектары беларуская глыбінка рэагуе масавасцю ў адваротны бок. Зараз у Камароўцы, Тамашоўцы і ва ўсіх суседніх, хто яшчэ стаіць на нагах, па два разы на дзень наведваецца ў Польшчу праз блізкі пагранпераход «Дамачава». Гарэлка і цыгарэты выратоўваюць землякоў касманаўта ва неўраджайны год пры рэжыме, памагатым якому падрадзіўся быць двойчы герой заваёвы космасу. ■

## Першы лёд – камяком

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

Энергазатратны працэс заліўкі новага лёдавага поля плошчай 2.000 квадратных метраў даводзіцца паўтарыць у Брэсце. Першы лёд атрымаўся няўдалым, бо яго празрыстасць 5-сантыметровы слой адлюстроўвае цёмную шэрасць бетоннай асновы, і таму ўся арэна выглядае бруднай, як гразь. Лёд цяпер трэба размарозіць, а бетон пафарбаваць у белае.

30 чэрвеня , у апошні дзень здачы пускавой навабудоўлі першага паўгоддзя ў эксплуатацыю, выкрыліся яшчэ больш як два дзесяткі недаробкаў будаўнікоў і памылак праекціроўшчыкаў. Вельмі нізкая (да 2,30 метра ўсяго) столь уваходнага вестыбюля. Некваліфікавана выкананая тынкоўка. Вуглы асобных сценаў паабломвалі, калі заносілі мэблю і абсталяванне. У ложы на трэцім паверсе, якую тут называюць не інакш, як «прэзідэнцкай», загадана збіць верхнія прыступкі і зрабіць уваход гладкім. Гэта патрабаванне службы бяспекі з мінскай адміністрацыі, якая асцерагаецца, што ў няроўнасцях можна схаваць выбуховае прыстасаванне.

Пампезнае адкрыцце лёдавага палаца наўрад ці адбудзецца і 28 ліпеня, калі Брэст будзе адзначаць чарговую гадавіну вызвалення ад нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў. Рэспубліканскі бюджэт завінаваціўся перад брэсцкім будтрэстам №8 больш як 60 мільёнаў рублёў. Затрымкі заробкаў рабочым з-за гэтага набылі сістэматычны характар. І калі найбольш кваліфікаваныя дамагліся свайго пераводу на іншыя аб'екты, то прыцягнутыя выпраўляць недаробкі зноў пагражаюць стыхійным страйкам. ■

## Чыкіну вынесенае папярэджанне

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Суддзя Алена Тройніч, якая працуе ў судзе Маскоўскага раёна Мінска, вынесла афіцыйнае «папярэджанне аб больш пільным выкананні закона» намесніку старшыні Мінгарвыканкама Віктару Чыкіну.

Гэта адбылося ў рамках разгляду скаргі актывіста Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзіміра Раманоўскага на незаконнае рашэнне гарвыканкама адносна недазволу на правядзенне пікета каля будынка гарадскіх уладаў напрыканцы чэрвеня гэтага года. Тады Уладзімір Раманоўскі з сябрамі па партыі ўсё ж правялі пікет, абгрунтаваўшы сваё рашэнне тым, што ў адказе Віктара Чыкіна не ўказаны прычыны і матывацыі, а таксама ясна не напісана, забаронены пікет ці не. За несанкцыянаванае правядзенне акцыі сам Раманоўскі быў аштрафаваны на 280 тысяч рублёў, пасля чаго і была пададзеная вышэйзгаданая скарга.

Суддзя палічыла довады Раманоўскага даказальнымі і вызначыла, што сапраўды ў адказе В.Чыкіна толькі здаецца, што пікет можа быць дазволены толькі ў пэўным выпадку, а пра тое, што пікет У.Раманоўскага забаронены, не было сказана ні слова. Суддзя вынесла Чыкіну папярэджанне, параіўшы яму больш пільна сачыць за літарай закона, але прысуд Раманоўскаму не адмяніла, бо факт правядзення несанкцыянаванага пікета ўсё ж меў месца. ■

## Развітанне з дэпутацтвам

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Пад занавес свайго дэпутацтва старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце палаты прадстаўнікоў Анатоль Красуцкі ўзначаліў адну з апошніх дэлегацыяў Нацыянальнага сходу. Яна выправілася 12 ліпеня ў Кітай. Па ўстаноўленай традыцыі, штогод Усекітайскі народны сход і Нацыянальны сход Беларусі абменьваюцца парламенцкімі дэлегацыямі.

Анатоль Красуцкі і «сенатары» Інэса Драбышэўская з Аляксандрам Якабсонам наведаюць камісію па ўнутраных справах і юстыцыі Усекітайскага сходу, пабываюць у міністэрствах грамадзянскай адміністрацыі, кадраў, пазнаёмяцца са свабоднай эканамічнай зонай «Жэньчжэнь».

У Мінск дэлегацыя Нацыянальнага сходу вернецца толькі 20 ліпеня. Такое вось працяглае атрымліваецца развітанне з дэпутацкімі крэсламі. ■

## Стартанулі без амбіцыяў

Алесь ШМЯЛЁЎ

Абсалютна бязлікую гульню паказалі барысаўскі футбольны клуб БАТЭ і ягоны сапернік армянскі «Шырак» з Гюмры ў стартавай гульні першага адборачнага этапа Лігі чэмпіёнаў. Гульня, што праходзіла на полі армянаў, завяршылася ўнічыю — 1:1 і пакінула абедзвюм камандам шанцы на далейшае праходжанне турнірнай сеткі. Наступным сапернікам, які чакае пераможцу пары, з'яўляецца шведскі «Хельсінборг».

Зрэшты, на той гульні, што паказалі экс-савецкія каманды, наўрад ці магчымы варыянт, што хто-небудзь з іх акажа дастойнае супраціўленне шведам. Ды і згодна з заявамі галоўных трэнераў камандаў, проста выхад у наступную стадыю спаборніцтваў ужо будзе лічыцца поспехам. Якія задачы ставім, такая і гульня. Дарэчы, паўторны матч адбудзецца 19 ліпеня ў Барысаве. ■

# Еўропа думае пра эканамічныя санкцыі супраць Беларусі

Рыгор БУЯН

**Арыенціровачна 31 ліпеня – 4 жніўня ў Мінску будзе працаваць дэлегацыя Савета Еўропы на чале з кіраўніком рабочай групы СЕ Вольфгангам Берэндтам. Эмісары СЕ прыедуць на Беларусь, каб пераканаць беларускія ўлады ў неабходнасці выканаць свае абавязацельствы, узятыя Аляксандрам Лукашэнкам на Стамбульскім саміце леташняй восенню.**

Гэта стала вядома пасля наведвання дзвюма беларускімі дэлегацыямі – афіцыйнай і ад апазіцыі – 5-8 ліпеня Берліна. Старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Палаты прадстаўнікоў А.Красуцкі, прэзідэнцкі памочнік С.Посахаў і рэдактар «Советской Белоруссии» П.Якубовіч прадстаўлялі цяперашнюю ўладу, а С.Шарэцкі, В.Вячорка, М.Грыб, С.Шушкевіч, Ю.Беленькі, А.Дабравольскі ды Л.Лемяшонак выступалі ад імя аб'яднанай апазіцыі. Бундэстаг, па запрашэнні якога абодва бакі пабывалі ў Берліне, спрабаваў атрымаць інфармацыю пра ўнутрыпалітычную сітуацыю на Беларусі, што называецца, з першых рук.

Пасля вяртання з Нямеччыны вечарам 9 ліпеня Станіслаў Шушкевіч выказаў задавальненне візітам. Па словах лідэра БСДГ, «нямецкі бок заняў вельмі рашучую і прынцыповую пазіцыю», падтрымаўшы рашэнне Кангрэса дэмакратычных сілаў і назваўшы яго адзіна правільным у існуючых умовах. Апазіцыя прывезла з сабой пасланне да Аляксандра Лукашэнкі, прынятае нямецка-беларускай парламенцкай групай пад старшынствам дэпутата Бундэстага Уда Цапфа, з заклікам прыкласці ўсе намаганні, каб выбары ў парламент былі «транспарэнтныя, чыстыя і сумленныя». «Гэта дало б Германіі ў еўрапейскім кантэксце магчымасць падтрымліваць зноў нармальныя адносіны з вашай краінай і аднавіць канструктыўнае супрацоўніцтва на карысць беларуская народа», – гаворыцца ў лісце.

Прадстаўнікі афіцыйнага Мінска сцвярджаюць адваротнае: што яны «знайшлі падтрымку ў Германіі». А.Красуцкі заявіў, што «на ўзроўні дэпутатаў Бундэстага ўдзел у выбарах у якасці назіральнікаў цалкам верагодны».

Зрэшты, прынцыповасць нямецкага боку пацвярджае заява дэпутата Бундэстага, кіраўніка рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Вольфганга Берэндта. Мэту візіту беларускіх палітыкаў у Германію ён патлумачыў так: беларускія ўлады заяўляюць пра выкананне ўсіх умоваў для правядзення свабодных выбараў, пастаўленых міжнароднай супольнасцю перад імі, а апазіцыя абвяргае падобныя сцвярджэнні. Каб на ўласныя вочы ўбачыць цяперашнюю сітуацыю і ацаніць яе, Вольфганг Берэндт у складзе дэлегацыі збіраецца чарговы раз у канцы ліпеня прыехаць на Беларусь. ■

# Дарэмныя ўрокі гісторыі

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

«Мы можам садзейнічаць таму, што Беларусь акажацца на яшчэ большай дыстанцыі ад краінаў, з якімі яна мае адносіны, асабліва ад Расіі», – такую рэзкую заяву зрабіў 12 ліпеня генеральны сакратар Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП) Біл Джордан.

11-12 ліпеня кіраўнік МКСП знаходзіўся з афіцыйным візітам у Мінску. Ягоны прыезд стаў першай рэакцыяй на скаргу шэрагу беларускіх прафсаюзаў аб парушэнні іхніх правоў, накіраваную у Міжнародную арганізацыю працы (МАП). Тры галіновыя прафсаюзы ФПБ: аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектроннай прамысловасці і работнікаў АПК, – а таксама БКДП паскардзіліся ў МАП на парушэнне беларускімі ўладамі права на свабоду асацыяцыяў і ўмяшальніцтва ў статутную дзейнасць.

Біл Джордан узначаліў прадстаўнічую дэлегацыю МКСП, якая аб'ядноўвае каля 125 мільёнаў чалавек у 125 краінах свету. Асноўным пунктам знаходжання на Беларусі сталася, безумоўна, сустрэча Б.Джордана з першым намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзімірам Замяталіным, прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным ды міністрам юстыцыі Генадзем Варанцовым. Абмяркоўваліся толькі два пытанні: цяжкасці з рэгістрацыяй прафсаюзных структураў ды ўмяшальніцтва дзяржавы ў дзейнасць прафсаюзаў. Абавязковая наяўнасць «юрыдычнага адрасу» для рэгістрацыі прафсаюзных арганізацыяў на прадпрыемствах «стала добрай зброяй у руках дырэктараў»: яны маюць права даць юрыдычны адрас, а могуць і адмовіць у яго прадастаўленні. Менавіта гэтая прычына прывяла да знікнення некаторых арганізацыяў, а іх лідэры аказаліся без працы. Прэм'ер У.Ярмошын, які, як і Біл Джордан, 25 гадоў узначальваў цэхавую прафсаюзную арганізацыю, прызнаў існаванне праблемы. Аднак і У.Замяталін, і старшыня Саўміна адмовіліся прызнаць, што дзяржава ўмешваецца ў дзейнасць прафесійных саюзаў. Між тым, генсек МКСП параіў уладам «выкарыстаць усе магчымасці для ліквідацыі ўказаных перашкодаў». А гэта азначае неабходнасць змянення многіх прэзідэнцкіх дэкрэтаў ды іншых нарматыўных актаў.

Як пацвярджэнне ўмяшальніцтва дзяржавы ў прафсаюзныя справы Біл Джордан расцаніў спробу ўрада падмяць пад сябе прафсаюз работнікаў аграпрамысловага комплексу. На другі дзень візіту – 12 ліпеня якраз праходзіў 3-ці з'езд работнікаў АПК, на якім альтэрнатыву дзеючаму старшыні Аляксандру Ярашуку склаў міністр сельскай гаспадаркі Юрый Мароз. Гэта выклікала асабліва абурэнне Біла Джордана: «У гэтай краіне не навучыліся нічому з урокаў гісторыі». ■

# «Сопротивление российской агрессии...»

## С бывшим советником министра экономики Чечни Зелимханом Вальхиевым в одном из городов Украины беседует корреспондент НАШАЙ СВАБОДЫ

***– В российских средствах массовой информации нынешняя война в Чечне чаще всего подается как вооруженная экспансия ваххабизма на территорию СНГ. Какое место в идеологии российско-чеченской войны занимает вахабизм на самом деле?***

– Религиозной проблемы здесь нет изначально. Есть сопротивление российской агрессии, и основная часть участников этого сопротивления начала свои действия по призыву нашего президента. Мы рассматриваем действия России именно как агрессию. У нас были религиозные проблемы, но такие же проблемы существуют и в других странах. А если взять Саудовскую Аравию – ваххабизм там — государственная религия и о нем как об экстрарадикальном движении воинствующего ислама, как его представляют в России, вообще не может идти речь.

Вообще понятие «исламские экстремисты» – надуманное. Не только российские, но и зарубежные СМИ пытаются навязать нам этот термин. Я считаю, это большая ошибка. Сам по себе ислам — миролюбивая религия. Христианские заповеди типа «Не убей» или «Не укради» присутствуют в еще большей степени в мусульманской религии. Я скажу так: в чеченской войне религиозный мотив, может быть, даже менее присутствует, чем, допустим, в Афганистане. Чечня приняла ислам намного позже других стран, а до этого в Чечне миссионеры проповедовали христианскую религию, как и на Кавказе. И у нас на территории Чечни и Ингушетии сохранились даже древние христианские храмы. Если в некоторых странах ислам был внедрен «огнем и мечом», то у нас – мирным путем. В Чечне миссионеры столкнулись с тем, что тут действовал кодекс обычаев – адат. Он был своего рода конституцией, если называть его по-европейски. Это вековой опыт народа. Кодекс поведения человека в чеченском обществе. Были, разумеется, свои ограничения и наказания. Основным наказанием было порицание. Если человека, например, уличали в дурном поведении, он испытывал общественное порицание вплоть до того, что его могли выселить из села, отстранить от рода.

Я не понимаю, что такое «исламский экстремизм». Почему, например, не говорят о «христианском экстремизме»? Ведь мы знаем, что в мире есть проблемы: в Ирландии, допустим, в Испании. И теракты есть, и жертвы...

***– Распространено мнение, что весь мусульманский мир помогает Чечне разными способами: оружием, деньгами, наемниками. Насколько это соответствует действительности? Почему тогда мусульманский мир так долго не может победить федералов?***

– С формулировкой «разными способами» нельзя согласиться. Мы ощущаем моральную поддержку, и не только в мусульманском мире, – западные державы оказывают нам поддержку моральную и политическую. Но говорить о каких-то армиях солдат, прибывающих в Чечню тысячами, – просто несерьезно. Россия передает про несколько тысяч арабов, китайцев и так далее. Распространение такой «информации» – целенаправленная акция российских спецслужб.

Сегодня есть в Чечне добровольцы из разных стран. И мусульманских, и славянских. Хотя, если смотреть реально на факты, не исключается возможность заинтересованности некоторых государств в отправке в Чечню своих специалистов. Это было всегда, и Россия этот метод тоже использует. Мы знаем, что военные инструкторы – раньше советские, сейчас российские – находились и находятся в разных точках Земли. Такие специалисты есть и в Чечне сегодня. То же самое – вооруженное формирование под командованием Хаттаба. У него больше чеченцев, дагестанцев, есть кабардинцы, представители народов всего Северного Кавказа. ▶



Российский солдат, пострадавший в боях в Чечне

Окончание на стр.6

ЗАМЕЖЖА

# Стагадовы юбілей каралевы-маці



У Вялікабрытаніі ў аўторак пачаліся святкаванні ў гонар 100-гадовага юбілею каралевы-маці. Як передае тэлерадыёкампанія Бі-Бі-Сі, святкаванні пачаліся са службы ў саборы Св.Паўла ў Лондане, якую адслужыў архіепіскап Кентэрберыйскі Джордж Кэры. У сваёй прамове ён нагадаў, што каралева-маці, якой 100 гадоў споўніцца 4 жніўня, «выйшла з сэрца брытанцаў». Па ягоных словах, «гэта не звычайна, што ў сем'ях па ўсёй краіне Вас ведаюць проста як «каралеву-маму».

На службе была прадстаўленая ўся брытанская каралеўская сям'я, а таксама каралі Нарвегіі і Бельгіі з жонкамі, вялікі герцаг Люксембурга, былыя каралі Грэцыі і Румыніі. Разам з імі на гэтай святочнай падзеі прысутнічалі вядомыя палітыкі і дыпламаты, у тым ліку брытанскі прэм'ер Тоні Блэр. Акрамя таго, сярод 2,5 тысяч гасцей былі брытанцы, якім у гэтым годзе таксама спаўняецца сто гадоў. ■

# Сям'я былога савецкага шпіёна падала ў суд на ЦРУ

У амерыканскім горадзе Сіэтлі, штат Вашынгтон, пачаўся незвычайны судовы працэс дзвюх «невідзімак» супраць ЦРУ. Сталая сямейная пара, названая ў матэрыялах справы «Джон і Джэн Доу» (імёны, якія азначаюць у ЗША прыкладна тое ж, што ў Расіі «Іваноў і Іванова»), сцвярджаюць, што шпіёнскае ведамства парушыла свае абавязацельствы ў адносінах да іх. У пачатку 1980-х гадоў, паведамляе газета «Вашынгтон пост», гэтыя савецкія дыпламаты пагадзіліся шпіёніць для ЦРУ, а за гэтыя паслугі ім было абяцанае ў ЗША «новае багатае жыццё пад новымі імёнамі». Цяпер, расказвае газета са слоў іх адвакатаў Сцівена Хейла, які доўга працаваў у юрыдычнай службе ЦРУ, «яны самі адчуваюць, што ім здрадзілі».

Яны жывуць у Сіэтлі без грошай і патрабуюць суд вярнуць ім усё, што калісьці ім было абяцанае ў сакрэтным кантракце, які яны падпісалі. Згодна з амерыканскім заканадаўствам, дырэктар ЦРУ самастойна мае права прадастаўляць не больш ста замежным шпіёнам у год амерыканскае грамадзянства, жыллё, сталыя выплаты, аплачваемую медычную страхоўку і іншыя даброты. Доу атрымалі так званую штогадовую «стыпендыю» ў $27 тыс., валодалі медычным страхавым полісам і карткай сацыяльнага страхавання. Аднак муж, відаць, не задаволіўся гэтымі ўмовамі, уладкаваўся на працу, пасля чаго, канешне, развітаўся з грашыма ЦРУ. З-за хваробы быў звольнены, і для былых шпіёнаў пачаліся пакуты. «Гэта было групства, звычайнае глупства», – сказаў карэспандэнту газеты Уільям Геймер, прэзідэнт «Фонду Дзеймстаун», заснаванага для дапамогі папаўшым у бяду агентам ЦРУ, якія знайшлі прытулак у ЗША. Пры гэтым У.Геймерам кіруе не спачуванне, а хваляванні аб рэпутацыі ЦРУ, якое можа беспардонна лгаць патэнцыйным агентам з Паўночнай Карэі або Ірака аб расійскім жыцці, калі яны здрадзяць радзіме.

Судовая перспектыва «справы Доу» няясная, аднак само разбіральніцтва – іх першая перамога. Юрысты ЦРУ даказвалі федэральнаму акруговаму суддзі Роберту Ласніку, што ён не мае права прымаць справу да разгляду, паколькі гаворка ідзе аб праблемах нацыянальнай бяспекі. Аднак суддзя пастанавіў, што тут мае месца звычайнае невыкананне фінансавых абавязацельстваў, так што справа поўнасцю ў яго кампетэнцыі. ■

# Аварыйная пасадка германскага аэробуса, 26 чалавек паранены

Колькасць пасажыраў германскага аэробуса, якія атрымалі раненні ў выніку аварыйнай пасадкі самалёта ў сераду ў міжнародным аэрапорце аўстрыйскай сталіцы, па высветленых дадзеных, склала 26 чалавек. У васьмі з іх, як паведамляе агенцтва ЭФЭ, раненні сур'ёзныя, і яны дастаўленыя ў бальніцы. З астатнімі пасля аказання ім першай медычнай дапамогі працуюць псіхолагі.

Аэробус з германскай чартарнай авіякампаніі «Хапаг-Лойд» з 142 пасажырамі на борце вылецеў у сераду з грэчаскага вострава Крэта ў Гановер (ФРГ). Па сцвярджэнні пілотаў, у палёце былі выяўленыя непаладкі ў рабоце двух рухавікоў і, акрамя таго, высветлілася няхватка гаручага. Экіпаж запрасіў вымушаную пасадку ў венскім аэрапорце, але пры прызямленні ў самалёта, па неўстаноўленых пакуль прычынах, адвалілася левае крыло. З-за страты раўнавагі лятальны апарат нахіліўся набок, саскочыў з пасадачнай паласы і юзам праехаў некалькі дзесяткаў метраў па полі.

Прадстаўнікі аўстрыйскіх авіяцыйных службаў лічаць, што аварыя здарылася з-за памылак экіпажа аэробуса. Па некаторых дадзеных, пасля ўзлёту з вострава Крэта лётчыкі не ўбралі шасі, і з-за гэтага самалёт падчас палёту патрабаваў больш, чым разлічана на нормах, гаручага. На думку экспертаў, з такога роду непаладкай і ва ўмовах палёту супраць ветру экіпаж павінен быў прыняць рашэнне аб вымушанай пасадцы раней, чым ён гэта зрабіў над Венай. ■

**Па матэрыялах агенцтва ІНТЭРФАКС**

